# НАША НІВА

*Беларуская газэта* *№7, 1994*


**ТЭМА** гэтага нумару «НН» — акупацыя Міжнароднае права вызначае статус акупацыі, які для акупаванаи краіны і нацыі азначае пэўныя льготы й выгоды Можна ня ведаць пра іх, можна не карыстацца імі можна фанабэрыста адмаўляць той факт што ты твая краіна і твой народ — пад акупацыяй Але каму ад гэтага лепей?

**РАДЗІВІЛЫ.** Гэты наибагацеишы у Эўропе беларускі княскі род назапасіў у свои час вялізныя скарбы У 1812 годзе расейская армія вывезла зь Нясьвіжа усё што толькі магла забраць Леген да кажа, што перад тым Радзівілы закапалі свои скарб, у тым ліку 12 залатых апосталаў... Пра тое што адбылося на самои справе — артыкул гісторыка С Рыбчонка

**НАЦЫЯНАЛІЗМ.** «Ці нацыяналізм – гэта галоўная пагроза для міру у Эуропе? Не Такая пагроза — недахоп усталяванага спосабу мірнага самастанауленьня народаў»



**НЯМЕЦКАЯ НАВЭЛА.** Чатыры алавяданьні сучасных пісьменьнікау з Заходняи Нямеччыны. Эрых Кэстнэр Зыгфрыд Ленц, Макс Фрыш, Пэтэр Гандкэ

# АКУПАЦЫЯ



*Здымак з архіву Міхася Раманюка*

**ХАМ.** Спрэчка з Славамірам Мрожакам у мінулым нумары «НН» «Патэнцыяльна мы усе хамы у вачох іншых Мы ўсе баімся неразуменьня, неадпаведнай сьвядома варожай інтэр прэтацыі нашых словаў і ўчынкаў Хама не зварушвае ніводзін лад, нават камунізм — як хацеу бы Мрожак Хам — гэта прадукт рэвалюцыі, гвалтоўных пераўтварэньняў. Памеры хама — гэта мера гвалтоўнасьці але и мера пось пеху перамен аднак ні у якім выпадку — ня мера вартасьці асобных людзеи падверper жаных пераменам»



**КАЗКІ** пра кандыдатау. Пазашкольная чытанка па наиноушаи беларускай гісторыі.



**ЖЫДОЎСКІ ГУМАР.** У даваеннай Беларусі, Літве и Польшчы жыды былі асноўнымі насельнікамі мястэчак і гарадоу і стварылі, між іншым цэлую сваю тутэишую культуру, у тым ліку і гумар, узоры якога публікуюцца у гэтым нумары «НН»

# ДЗЯДЗЬКА МІХАСЬ

Сяргей Мацёры

Чалавек заўсeды адзін. Калі ён гуртуецца ў суполкі, ён ужо ня сам па сабе чалавек У статку ходзяць толькі маткі і дзеці Але дзік ці зубар заўсёды адзін Аднак, калі забіваюць адзінца, сканчаецца й ягонае племя

Так казаў дзядзька Міхась

Пятнаццаць гадоў таму ў лесе каля Доўскай шашы працавала падпольная беларуская школа Мы даяжджалі сюды аўтобусам, а потым ішлі праз лес па адным Была позьняя восень, і падаў першы сьняжок Мы йшлі не па сьцежках, а проста па жухлым імху, каб не пакідаць сьлядоў. Каля вогнішча на паляне нас чакаў настаўнік дзядзька Міхась Ён заўсёды быў у гімнасьцёрцы и заношаным курцяку Ніхто ня ведаў, адкуль ён узяўся, і не пыталіся пра гэта

— Мова свая, калі ты сам свой, — казаў дзядзька Міхась Каб адчуваць мову, трэба адчуваць сваю кроў

Адчуваньне прыходзіла хутка Мы былі вучаныя па-расейску і таму цяпер паўтаралі, як малітву адзін цень, адзін боль адзін сабака Гэта было выпрабаваньне мужчынскага роду

Дзядзька Міхась загінуў першы Нехта навёў на школу гэбістаў, і міліцыя зрабіла аблаву А дзядзька Міхась меў паляўнічую стрэльбу. Яны абступілі яго, і ён, не прамовіўшы ані слова, стрэліў у неба Гэтага было дастаткова, каб нехта стрэліў у яго З таго дня перастала існаваць наша лясная школа

— «Адзін» гучыць так толькі па-беларуску, — казаў дзядзька Міхась — Як першы званок ці як куля аб шкло — «дзін-н-н»...



# БУДНІ АКУПАЦЫІ

Алег Дзярновіч

**Тут усё пачынаецца з крыўды, якая шмат для нас значыць. Нас ахоплівае прага помсты, альбо мы робімся абыякавыя. Гэта падкоркавыя пачуцьці, і таму ад сябе мы не заўжды патрабуем тлумачэньняў «Што канкрэтна здарылася?»**

Статус акупацыі набываецца пасьля часовага захопу ўзброенымі сіламі адной дзяржавы тэрыторыі іншай дзяржавы (краіны). XX стагодзьдзе фіксуе такі факт: *захоп тэрыторыі БНР*. Стварэньне БНР — той юрыдычны факт, адносна якога ўсе іншыя падзеі другасныя Абвяшчэньне БССР — усяго толькі канстатацыя рэжыму акупацыі. Наступныя падзеі — 1939 год, другая сусьветная вайна — толькі разьвіцьцё дадзенага сюжэту

Дзеля таго, каб юрыдычна спыніць акупацыйны рэжым і зафіксаваць гэта, трэба: 1 каб улады Беларусі абвясьцілі факт заканчэньня акупацыі й прызналі легітымнасьць органаў БНР; 2. каб урад БНР прызнаў факт заканчэньня акупацыі.

Пасьля гэтага адбываецца самароспуск ураду БНР у выгнаньні пры адначасовай перадачы ўсіх ягоных паўнамоцтваў ураду Рэспублікі Беларусі... Але сюжэт не атрымаў свайго завяршэньня. З тэксту Прэамбулы Канстытуцыі РБ былі выключаныя словы пра пераемнасьць дзяржаўнасьці ад БНР. Такім чынам, акупацыя БНР — дзеиная рэалія.

Рэжым умовы і наступствы акупацыі вызначаны ў Гаагскіх (1899, 1907) і Жэнэўскіх (1949) канвэнцыях аб *Законах і звычаях вайны*. Жэнэўская канвэнцыя «Аб абароне цывільнага насельніцтва» дае нам як ураджэнцам і жыхарам Беларусі, права захоўваць вернасьць сваёй дзяржаве. Таму мы можам ухіляцца ад уплаты падаткаў, мытных пошлінаў (якія сёньня ўжо й намінальна сталі расейскімі)... Гэта нашы законныя санкцыі супраць рэжыму. Мы можам праводзіць іх з улікам міжнародных гарантый уласнае бясьпекі. Нас ахоўвае Жэнэўская канвэнцыя, якая забараняе калектыўныя пакараньні і ўгон насельніцтва

Міжнароднае права вылучае дзьве формы акупацыі: 1 часовае знаходжаньне войскаў чужой дзяржавы на нашай тэрыторыі ва ўмовах ваеннага становішча; 2 пасьляваенная акупацыя.

Пры акупацыі ўлада акупаванай дзяржавы практычна спыняецца Падчас ваеннай акупацыі адміністратыўнае кіраваньне тэрыторыі ажыцьцяўляецца камандаваньнем акупацыйных войскаў. У паваенны час фармуюцца таксама органы цывільнага кіраваньня, у якіх могуць браць удзел прадстаўнікі тутэйшага насельніцтва. Акупацыйная дзяржава павінна прымаць меры дзеля ўпарадкаваньня цывільнага и гаспадарчага жыцьця на захопленай тэрыторыі ў інтарэсах цывільнага насельніцтва. Акупацыя — зьява часовая паводле вызначэньня, таму ўключаць акупаваныя тэрыторыі ў склад дзяржавы-акупанткі забараняецца

Акупацыя — гэта працэс, які закранае найменей два бакі. Статус акупацыі прадугледжвае таксама пэўную бясьпеку акупацыйных войскаў, іхняй маёмасьці ды камунікацыяў. Звычайна вайсковыя ўлады на акупаванай тэрыторыі прымаюць аднабаковыя акты ў дачыненьні да насельнікаў ды мясцовых органаў улады і забясьпечваюць іх выкананьне. А мы ўжо ведаем, што выкананьне забясьпечваецца таксама прымусам

Пасьля таго, як выкананыя фармальнасьці спыненьня акупацыйнага рэжыму узьнікае новае пытаньне — пра адказнасьць агрэсара Расея парушае *Законы и звычаі вайны* Грубае парушэньне — прымус служыць у войску агрэсара. Цалкам парушана яшчэ адно палажэньне — аб забароне зьнішчаць помнікі мастацтва й рэлігіі, а таксама гвалтам вывозіць іх на чужую тэрыторыю Асобная Гаагская канвэнцыя 1954 г прысьвечана абароне культурных каштоўнасьцяў. 4-я Гаагская канвэнцыя 1907 г фармулюе неабходнасьць кампэнсацыі стратаў, якія вынікаюць з парушэньняў акупацыйнымі ўладамі *Законаў і звычаяў вайны*. Асобы, вінаватыя ў парушэньнях законаў, павіны несьці адказнасьць перад судом (ён можа адбыцца й пасьля спыненьня акупацыйнага рэжыму)

Акупацыйныя ўлады ня могуць усіх насельнікаў захопленай імі краіны разглядаць у аднолькавым рэпрэсіўным статусе. Тыя з нас, хто рызыкне ўзяць у рукі зброю, могуць патрапіць у катэгорыю камбатантаў, гэта значыць тых хто ваюе Камбатанты — ня толькі асобы якія знаходзяцца ў дзейнай арміі, але і ўдзельнікі вайсковага апалчэньня аддзелаў дабраахвотнікаў насельніцтва якое стыхійна ўзялося за зброю, у тым ліку удзельнікі цывільных ды нацыянальна-вызвольных войнаў. Прычым апошнія могуць лічыцца камбатантамі, калі маюць камандзераў, адкрыта носяць зброю ды выконваюць *Законы й звычаі вайны* Менавіта камбатанты калі яны захопленыя ў палон, падлягаюць пазбаўленьню шмат якіх грамадзянскіх правоў трапляюць пад значныя абмежаваньні Затое на іх распаўсюджваюцца безумоўныя гарантыі захаваньня асабістага жыцьця Іншыя ўдзельнікі супраціву — вайсковыя журналісты, інтэнданты, мэдычны пэрсанал, — зьяўляюцца некамбатантамі, чые грамадзянскія правы асобна ахоўваюцца міжнароднымі канвэнцыямі. Акрамя таго, каб назваць нейкіх людзей некамбатантамі (значыць, усё ж удзельнікамі супраціву) акупацыйныя ўлады мусяць давесьці, што гэтыя людзі маюць пэўныя пасьведчаньні ці іншую дакумантавануюю фіксацыю статуса. Астатнія людзі зьяўляюцца цывільным насельніцтвам.

Мы мусім сачыць за лёгікай міжнароднага права и таксама разьмяжоўваць прадстаўнікоў грамадзтва акупаванай краіны. Калябарантамі будуць тыя, хто йдзе на актыўнае супрацоўніцтва з рэжымам беручы ўдзел у карных акцыях якія забараняюцца міжнародным правам Што да ўдзелу асобаў карэннай нацыянальнасьці ў цывільнай адміністрацыі у асобных выпадках — служба ў паліцыі (крымінальны вышук, да прыкладу), то ён разглядаецца як удзел у забесьпячэньні цывільнага жыцьця пад кантролем акупантаў у паваенны акупацыйны пэрыяд.

Забараняецца незаконна выкарыстоўваць парляманцёрскія и нацыянальныя сьцягі, вайсковыя знакі й форменныя мундуры непрыяцеля Але вядомыя выпадкі, калі пад акупацыяй выкарыстоўваецца нацыянальная сымболіка (цывільная адміністрацыя ўраду Францыі у Вішы пад нямецкім кантролем часоў другой сусьветнай вайны; Беларусь у канцы XX ст )

Усе згаданыя міжнародныя канвэнцыі XX ст (у сваю чаргу яны грунтуюцца на больш раньніх дакумэнтах) ратыфікаваныя СССР У іх распрацоўцы фармальна брала ўдзел БССР. Значыць, усе дадзеныя канвэнцыі прызнаюцца акупацыйным рэжымам Для нас вельмі важна й тое, што Жэнэўская канвэнцыя 1949 г «Аб абароне цывільнага насельніцтва пад час ваины» дзейнічае ня толькі ў выпадках афіцыйнага аб'яўленьня вайны, але нават тады, калі адзін з варагуючых бакоў не прызнае стану вайны. Такім чынам — у Маскве могуць не прызнаваць факту акупацыі, пад якой мы жывем. Міжнароднае права ідзе яшчэ далей — акупацыяй прызнаецца захоп тэрыторыі, калі нават гэты захоп не сустрэў узброенага супраціву. Але ў выпадку з БНР рэальна зафіксаваныя факты ўзброенага супраціву беларускага войска

Жэнэўскія канвэнцыі тычацца и воинаў так званага неміжнароднага характару — цывільных, нацыянальна-вызвольных Гэта значыць, што факты супраціву беларусаў у сярэдзіне ды другой палове XX ст таксама фіксуюць статус акупацыі



# Будызм не прайшоў

Сяргеи Шыдлоускі

Маё дзяцінства прайшло пад акупацыяй, — гучыць крыху энатажна. Мо праз якіх дваццаць гадоу Незалежнасьці такія словы й будуць успрымацца як належнае але тады, у 70 ыя, чытаючы «Никогда не забудем» — жахлівае сьведчаньне аб той, яшчэ адной акупацыі (колькі іх тамака), — я нават і ўявіць сабе ня мог, што таксама калісьці скажу: «Маё дзяцінства прайшло пад акупацыяй...»

Апавядаць аб расейскаи акупацыі — значыць спавядацца ва ўсім сваім жыцьці, — што пасьпеу зрабіць, адчуць, убачыць і чаго не пасьпеў... Беларусы дастаткова ўжо спавядаліся у гэтым стагодзьдзі — талєнавіта, з задавальненьнем — і зноў казаць нешта адмысловае на гэтую тэму залішне, — азірніся нагляддзі ў вочы свайму суседу — і ты ўбачыш абліччa акупацыі

Амбіцыі маскоўскіх валадароу і брацкі сьверб іхняга народу выконвалі ва ўсім гэтым другасную ролю, бо тут гісторыя больш падобная на няўдалую спробу нацыянальнага суіцыду, чымся на кроніку заваёвы

Хто першы нясьцерпна захацеў пазбыцца турботаў зямных, зрабіцца тры сьнёгам моўкным — вой, зьнясілены буднямі вайны, ці селянін, што зьняверыўся дачакацца наступнай вясны... Калі нірвана зрабілася звыклай формай існаваньня беларускай нацыі? Двухсоттадовая акупацыя Беларусі Расеяи — гэта такі мэтафізычны гушчар, што нават Маркес наўрад ці даў бы тут рады

. Чаму ж не атрымалася гэтае самазабойства, калі беларус сам ішоў у рукі кату, толькі што матуз ды мыла свае не прынес Вось акурат на гэтым матузе ашчадны кат і даў маху, — калі б на Беларусь прыехала некалькі дзясяткаў дабрадзеяў кшталту графа Румянцава, беларусаў болеи не існавала б у прыродзе, але сюды ехалі збольшага зусім іншыя графы, не патрэбныя і самой Расеі. Ды за ўсё трэба плаціць, гаспада нават за матуз і мыла для ахвяры



Алкуль у зўрапейскага народу гэткая амаль будысцкая прага адмаўленьня дзейснага чыннага жыцьця Нават няўры мсьлівая, амбітная інтэлігенцыя... Далібог, але найталенавіцейшага інтэрпрэтатара беларускасьці Ігната Канчэўскага я ўспрыймаю менавіта як найшчырага папулярызатара будызму Хіба што я памыляюся, хіба нораў нашага народу апошнім часам значна паздаравеў, — правалілася ж перадвыбарная казань рахманасьці, згоды ды талерацыі *a la* Ганьдзі. Народ выбраў апантанага Лукашэнку

Пасьля двух стагодзьдзяў нірванічнага сну шэры колер абрыдзеў, і вока прагне зыркіх, кантрасных фарбаў Хоць нязвыклае сонечнае сьвятло свабоды й сьлепіць, але гэта добра, — зрэнкі нармалёва рэагуюць на сьвятло Беларус жывы

# КАЛЯНІЯЛЬНЫ СТЫЛЬ

*Працяг са старонкі 9*

Пачатак XIX ст — ужо зусім іншы разьдзел у беларускім горадабудаўніцтве Ён адзначаны буйным экспэрымэнтам — поўнай ліквідацыя тутэйшасьці ў Бабруйску На працягу 1807-1812 гг старажытны горад з рэнэсанснымі й барочнымі ансамблямі, старой фарай Пятра й Паўла, езуіцкім кляштарам, зь некалькімі старасьвецкімі цэрквамі быў ператвораны ў друз. Акупацыйныя ўлады не спыніліся перад вялізнымі па тым часе людзкімі й фінансавымі затратамі... Замест горада паўстала крэпасьць (праект генэрала К.Апэрмана, 1810-1812). Крэпасьць расла й пашыралася пасьля вайны 1812 г На яе будаўніцтве працавалі тысячы прыгонных сялянаў і жаунерау З самых далёкіх куткоў Расеі звозіліся розныя будаўнічыя матэрыялы У 1827 г паводле праекту А.Штаўбэрта быў пастаўлены сабор А.Неўскага (на месцы фарнага касьцёлу), які стаў кампазыцыйным ядром вялікай вайсковай машыны...

Цікава, што адчувалі тубыльцы, калі сваімі рукамі нішчылі плён працы некалькіх пакаленьняў сваіх продкаў пад камандаю расейскіх афіцэраў зь нямецкімі прозьвішчамі?

Ад пачатку XIX ст усе найважнейшыя ў кампазыцыях гарадоў манумэнтальныя бажніцы былі у руках дзяржаўнай праваслаўнай царквы. Іх масавая перабудова вялася на казённы клясыцыстычны манэр, што часам да непазнавальнасьці зьмяняла аблічча колішніх барочных і ракальных касьцёлаў і цэркваў. Такой радыкальнай перабудове падпаў сабор базыльянскага манастыра ў Віцебску (з 1799 г — Усьпенскі сабор), пасьля чаго ў ім ужо цяжка было ўгледзець сакавітую першаснову барока маэстра Я.Фантана III У галоўным саборы Жыровіцкага манастыра (перабудова 1828 г) былі разабраныя магутныя барочныя вежы, заменены купал і ўведзены суворы дарычны ордэр, у выніку чаго бажніца непапраўна згубіла сваю мастацкую адметнасьць У такой самай манэры йшла рэканструкцыя і колішніх езуіцкіх сабораў Сьв.Ксавэрыя ў Віцебску, Сьв.Стафана ў Полацку, Дзевы Марыі ў Пінску, нават Фары Вітаўта ў Гародні ды шмат іншых Ляпідарны клясыцызм дазволіў мінімальнымі сродкамі сьцерці драматычны дынамізм барокавых урбаністычных комплексаў

Гэта не заўсёды атрымлівалася цалкам Часьцяком клясыцыстычныя налепкі выглядалі зусім недарэчы, утвараючы месіва неспалучальных формаў Да прыкладу, колішні касьцёл Дзевы Марыі, які ўжо ад уніятаў перайшоў да расейскае праваслаўнае царквы ў 1800 г, атрымаў клясыцыстычны галоўны фасад, якім замуравалі папярэдні фасад ракальны Але глыбокая раскрапоўка, велізарная непадзеленая плошча шчыта й франтонаў пры вельмі пластычных, рытмічна падзеленых вежах, стварылі зусім алягічны вобраз. Больш дапасоўны апынуўся клясыцыстычны ўбор да гарадзенскае Фары Вітаўта, якая пасьля грунтоўнай рапарацыі 1804-1807 гг. была высьвечана на царкву Сьв Сафіі. Буйнейшая гатычная базыліка Беларусі не магла перарабіцца часткова, таму збольшага ацалела да пазьнейшых расейскіх перабудоваў канца XIX ст., калі яе выгляд быў скалечаны радыкальна

У выніку горадабудаўнічай дзейнасьці расейцаў у першай трэці XIX ст бальшыня беларускіх урбаністычных цэнтраў (у першую чаргу на Ўсходзе) набыла і іншую структуру (выпрастаны й пашыраны вуліцы, перапляніраваны на рэгулярнай аснове кварталы), і іншае мастацкае аблічча (казённая забудова, адміністрацыйныя ансамблі ў стылі імпэрскага клясыцызму)

Але маштабны замах на горад у Бабруйску стаў знакам татальнае агрэсіі. Апроч ліквідацыі ўніяцтва, выкараненьня «пальшчызны» и сэгрэгацыі жыдоўства, расейцы ў Беларусі вынішчалі наогул усе праявы эўрапейскасьці Паўстаньне 1831 г. разьвязала рукі і імпэратару Мікалаю I, і праваслаўнаму клеру і ўсяму ўвогуле хаўрусу акупантаў Усьлед за карнымі мілітарнымі акцыямі быў ліквідаваны Віленскі ўнівэрсытэт дзе рыхтаваліся ўласныя тутэйшыя сілы архітэктараў і мастакоў Касаваньне уніі, спыненьне дзеяньня «Статуту...», выгнаньне з краю каталіцкіх законьнікаў і захоп касьцельнае маёмасьці азначалі канчатковы злом усіх інстытутаў, якія маглі захоўваць даакупацыйную сыстэму каштоўнасьцяў

Буйнейшая апэрацыя расейскага ўрбіцыду ў мікалаеўскія часы — гэта зьнішчэньне старога Берасьця дзеля пабудовы гіганцкай крэпасьці, якая, паводле задумы ствральнікаў, павінна была абараніць Расею ад Эўропы. Стварыць тут фартэцыю прапанаваў яшчэ ў 1797 г інжынэр Дэлаван Але прыгадалі пра гэтую ідэю пры Мікалаі I У 1830 г праект быў складзены тым жа генэралам Апэрманам, а таксама Малецкім і Фельдманам Працы па разбурэньні доўжыліся тры гады (1833-1836), пасьля чаго толькі пачалі будаўніцтва

Адным ударам зьнішчалася старэйшае магдэбурскае места, дзе у Мікалаеўскім саборы была падпісаная шматпакутная унія й дзеяла паўтузіну каталіцкіх кляштараў з касьцёламі выключна дасканалай архітэктуры, дзе была старэйшая ў краі сынагога й спрадвечнае апірышча кніжнай культуры, асьветы й духоўнасьці Гэтая апэрацыя паводле сваіх маштабаў ня мае аналягаў у гісторыі новага часу

Пасьля выгнаньня манаскіх законаў у спусьцелых кляштарах у 30-я гг XIX ст разьмяшчаліся турмы (кляштар бэрнардынак у Менску), вайсковыя кашары (бенэдыктынак у Нясьвіжы), казармы (езуітаў у Гародні, бэрнардынаў у Менску), склады (дамініканаў у Менску) і г д Зазвычай на высокіх франтонах і вежах касьцёлаў уладкоўвалі каланчы (дамініканаў у Слоніме й Менску, бэрнардынаў у Нясьвіжы і г. д.) З 1850-х гг была праведзена кампанія па зьнішчэньню альбо пераабсталяваньню пад гандаль старых ратушаў (пераважна ўжо на Захадзе Беларусі) У 1851 г рашэньне пра знос менскай ратушы прыняў сам імпэратар Мікалай I

Ня слушна было б лічыць, што вынішчэньне традыцыйнага ўрбаністычнага асяродзьдзя, прадуманае и мэтанакіраванае, не сустракала супрацьву з боку беларускай грамадзкасьці Менская ратуша ўсё ж прастаяла да 1857 году... Супрацьстаялі, хто чым мог Ваяры браліся за зброю, мастакі безупынна натавалі дарагія ўспаміны пра старасьвеччыну, публіцысты не забывалі адцеміць прыкметы зьдзічэньня. Міхал Леапольд фон Даманскі Гаўсман, родам з Брагіншчыны, сакратар Менскага дваранскага дэпутацкага сходу, пісаў «...одному из распорядителей пришла блажь срыть ратушное здание, потому что своим существованием оно напоминало жителям об обычаях минувшего времени, о магдебургском праве, Литовском статуте и о прочем Другому же понадобилось приказать срубить вековые тополя потому что они будут мешать войску свободно маршировать и упражняться по бульвару, и вдруг не стало ни ратуши ни тополей...» Уладзіслаў Сыракомля заўважаў яшчэ больш ляканічна «Касьцёл бенэдыктынак... імпануе сваёй старажытнасьцю сярод пераважна сучаснай забудовы Менску, дзе як бы наўмысна сьціраліся рысы мінулага» Гэта было напісана ўжо ў 1854 г

На дзіва трывалыя былі нэрвы ў літаратараў-патрыётаў. У тыя часы на панадворках колішніх уніяцкіх цэркваў палалі вогнішчы з старых кніг, старасьвецкага царкоўнага ўбраньня Рэч ня толькі ў тым што бажніцы траплялі з адных рук у другія Акупанты на сутнасьці зьнішчалі іх Поўнаму зьнішчэньню падлягала разнастайная пластыка (яна адсутнічае у праваслаўных цэрквах) выбіваліся бакавыя алтары, нават падлогі (!) перакладаліся ў адпаведнасьці з праваслаўным канонам. Тое ж тычылася і каталіцкіх касьцёлаў. Колькасьць зьнішчаных рухомых здабыткаў мастацтва не паддягае ніякім ацэнкам Такія акцыі фіксаваліся рэдка, як, напрыклад, зьнішчэньне абраза Сальватора Розы «Пабіцьцё каменьнем першапакутніка Сьв Стафана» з полацкага касьцёлу Сьв.Стафана падчас яго перарobкі на царкву

Да паўстаньня 1863 і беларускі ўрбаністычны асяродак па-сутнасьці перастау

# Якуб і яго пан. Ухвала Дэні Дыдро

*Працяг са старонкі 9*



мусілі ўвесьці танкі, каб навучыць іх, што такое любоў!

3

Пачуцьцёвасьць неаддзельная ад чалавека, але робіцца небясьпечнай ад той хвіліны, як яе прыймаюць за вартасьць, за крытэрый праўды, за апраўданьне. Нацыянальныя пачуцьці, нават самыя ўзвышаныя, могуць такім чынам апраўдваць найгоршыя жахі, а чалавек, надзьмуты лірычнымі пачуцьцямі, можа нарабіць гнюсотаў у сьвятое імя любові

Пачуцьцёвасьць якая пагражае рацыянальнаму мысьленьню робіцца грунтам непаразуменьняў і неталерантнасьці, як вызначыў Карл Густаў Юнг, — «супэрструктурай брутальнасьці».

Узьнясеньне пачуцьця на ўзровень вартасьцяў сягае далёка ў мінулае, хіба туды, дзе хрысьціянства аддзялілася ад юдаізму. «Любі Бога й рабі, што любіш», — казау сьвяты Аўгустын. Славуты сказ — вельмі красамоўны, і крытэрый праўды гэткім чынам быу перанесены звонку ўсярэдзіну, да суб'ектыўнай сваволі

Нявызначанасьць поўнага ласкі пачуцьця (любі Бога — хрысьціянскі імпэратыў) пагражае яснасьці Закону (імпэратыў юдаізму) і робіцца няпэўным крытэрыем маралі.

Гісторыя хрысьціянскай супольнасьці — гэта тысячагадовая школа пачуцьцёвасьці: Хрыстос на крыжы навучыу нас абагаўляць боль, рыцарская паэзія ле-

# ПАЛЯТУХА

*«Вось сымбаль твой, забыты краю родны'*

Аснову лясоў Новае Зэляндыі складаюць так званыя кауры (ня блытаць з малюскамі). Кауры (Agathis) — адзін з галоўных відаў прамысловае драўніны ў Паўдзённым паўшар'і. Гэтае дрэва сягае у вышыню больш за трыццаць мэтраў і мае больш за дзесяць мэтраў у абхопе. Ёсьць кауры, якія стаяць шмат стагодзьдзяў, а на высьпе Карамандэль есьць дрэва-волат якому даюць аж дзьве тысячы гадоў. Простыя й трывалыя камлі кауры здавён выкарыстоўваліся для будовы марскіх суднаў

У нетрах кауравых лясоў, пад самымі вершалінамі магутных дрэваў жыве зьвер — лятун (Petauroidis volans). Гэта адзіная сумчатая форма лятучых вавёрак. Калі лятун пераскоквае з дрэва на дрэва, ён расстаўляе свае лапы, утвараючы прастакутнік з складкаў скуры, і лёгка пляніруе ў паветры Свой палёт гэты немалы зьвер (да 50 см у даўжыню) карэктуе доўгім голым хвастом Лятун мае доўгае мяккае футра рознай афарбоўкі, але звычайна яно чорна-бурае, лятальная перапонка пакрытая жаўтавата-белымі плямкамі, а трыбушок наагул белы. Хвост чорны

Ак гыўны лятун уначы, а дзень ён праводзіць у дрымоце. Па начох гэтая спрытная й хуткая істота дэманструе сапраўдныя дзівосы акрабатыкі. Каму пашчасьціла падгледзець летуна уначы, той можа завагацца у сваіх уяўленьнях пра фізычныя законы настолькі лёгкім і грацыёзным здаецца палёт бяскрылага зьвера

Абарыгены-маоры ўжываюць мяса летуна, лічыцца, што яно вельмі смачнае Але здабыць гэтую жывёліну на велізарнай вышыні ёс жыхарства зусім няпроста Вось чаму летуноў вельмі шмат у дрымучых лясох

У адрозьненьне ад свайго новазэляндзкага брата, беларуская палятуха (Pteromis volans) — звычайны сысун з атраду грызуноў Rodentia. Але падабенства паміж імі надзвычайнае Гэтаксама як і у летуна, лапы палятухі злучаныя між сабою лятальнаю перапонкай, якая служыць ім як парашут Але йснуюць паміж імі и істотныя адрозьненьні (апроч таго вядома, што яны ўсё ж з розных атрадаў). Па-першае, палятуха у тры разы меншая за летуна (усяго 16 см) Па-другое, яс хвост пушысты, як у вавёркі. Як і лятун, палятуха жыве пераважна ў высокіх старых лясох Але ў Беларусі яна жыве ў лясох бярозавых альбо — з абавязковым дамешкам бярозы. Яна гэтаксама сілкуецца ўначы, удзень адпачывае, а усю зіму наагул сьпіць Перад зімои буравата жоўтая ядвабная поўсьць палятухі робіцца срабрыста-сівая зь цёмнаю рабізною. У гэты час палятухі будуюць сабе шарападобныя гнёзды з сухога лісьця, кары, імху. Адразу з прыходам вясны тут нараджаюцца 2-4 дзіцяткі. Ужо на шосты тыдзень жыцьця яны зусім самастойныя, але ўсё ж праводзяць з маткай адну зіму

Сілкуецца маленькая жывела амаль выключна па вэгетарыянску, пералятаючы з дрэва на дрэва ўсю летнюю ноч

Паялтуха амаль ня мае ворагаў у прыродзе (летуны іх ня маюць наогул) ды й чалавек на яе не палюе: што возьмеш са зьвера, які ў два разы меншы за вавёрку і важыць усяго 100-120 грамаў? І тым ня менш, няглецзячы на свой шырачэзны арэал (ад Атлянтыкі да Ціхага акіяну ў паўночных краях), палятуха паўсюль стала рэдкасьцю Прычына ў празьмернай высечцы старых лістоўных лясоў. Гэты зьвярок ужо даўно значыцца ў самых розных чырвоных кнігах

У Беларусі да падзелаў Рэчы Паспалітай палятуха была самым звычайным паўсюдным відам. Але з XIX ст. яе колькасьць пачала рэзка зьмяншацца з той самай прычыны масавае высечкі лясоў на вываз У 1920-я гады палятухі яшчэ вяліся у закутках Віцебскай і Магілёўскай абласьцей, але за гады савецкае ўлады ім удалося выжыць толькі ў Лёзьненскім раёне

На жаль, нашы дзеці ня могуць пабачыць гэтага зьвярка, як і шмат чаго іншага што некалі было ў Беларусі.

H S





Здымак Алены Адамчык

*Падпіска на «НАШУ НІВУ» — на кожнаи пошце*
*Індэкс 63125*

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА

*Тамашу С. і іншым.* Вершы сырыя Калі вы спрабуеце свае сілы ў паэзіі, дык дайце сабе працу давесьці ўсё да ладу, перш чым дасылаць у рэдакцыю Толькі тады можна вызначаць — добрыя вершы, ці кепскія Калі ж вы дасылаеце чарнавікі, то ацэнка будзе толькі такая нешта з гэтага можа атрымацца А можа й не атрымацца

*Р.Р.* з Баранавічаў У апавяданьні магчымы цікавы сюжэт У тым варыянце, які мы маем, ёсьць толькі ідэя, якую вы ўрэшце разгалінавалі, раздрабілі. Вершы чарнавыя

*Алесю Ш.* зь Менску «Партрэт» атрымаўся такі, як малююць на ўроках школьніцы: беленькі тварык, сінія вочкі, шчочкі, носік, вусны, як сунічкі... Але дзяўчынкі-падлеткі малююць прынцэсу, а не *драму*, таму пра іх ня скажаш, што яны сюсюкаюць

*В з Наваполацку* Ёсьць сюжэты, але мова нішчымная, штампаваная (напрыклад, «твар як печаны яблык»), дзяжурная (езьдзіў на сваім старэнькім «рэно»; прапусьціўшы колькі чарачак кальвадасу, дзіўныя сваёй прыгажосьцю песьні...). «Аналітыкі» ад гэтага прападаюць зусім Другое апавяданьне ратуе фактура Пас прабуйце перапісаць яго бяз штампаў

*Дзьмітрыю Б.* зь Менску Дзякуй за пытаньні і ўвагу 1 Старыя нумары «НН» (некаторыя) яшчэ можна атрымаць у рэдакцыі ў Менску 2. Роспавед пра віленскія помнікі мы мяркуем працягваць пры часьцейшай пэрыядычнасьці. 3. Пэрыядычнасьць мусіць быць часьцейшая, бо гэта ўмова разьвіцьця газэты, большая аўдыторыя, больш аўтараў Магчыма, «НН» стане тыднёвікам ужо налета 4 З раману «Вядзьмарка і дождж» мы падкрэсьлена друкавалі самы цнатлівы ўрывак, цалкам раман не перакладаўся. «Боскую камэдыю» мы друкуем па меры яе перакладу, гэта жывая справа Празбор твораў Эдгара По мы пісалі — рыхтуецца, а не «выдадзены». Пакуль зробленая прыблізна трэць аб'ёму 5. Што да правапісу, то нам патрэбны адзіны правапіс, і мы разам зь іншымі выданнямі, якія пішуць тарашкевіцай, ня раз прапаноўвалі прадстаўнікам афіцыйнага правапісу правесьці нараду й прыняць адзіны кампрамісны варыянт Але той бок маўчыць



## Фундатары «НН»:

*МП «Адліга» (Віцебск) — 10 тыс руб.*

*КФ «Беллиткам» (Маладэчна) — 1 млн. руб*

*Л Стагановіч і Б Даніловіч (ЗША) — $ 100*

*М Банькоўскі-Цюліг (Швэйцарыя) — $ 50*

**Вялікі дзякуй.**

**НАША НІВА** №7(25) Беларуская газэта. Заснаваная ў 1906, аднаўленая ў 1991. Рэдактар Сяргей Дубавец. Заснавальнік і выдавец Павал Жук Адрасы для допісаў: 220123 Менск, а/с 71 і 2041 Вільня, а/с 2082. Падпісны індэкс на Беларусі 63125, у Літве 67233 Рэдакцыя (Менск, Іванаўская 56 альбо Вільня Жыгімонта 12/2): Алег Дзярновіч (адк. сакратар), Сяргей Харэўскі (маст. рэдактар), Андрэй Антонаў (набор) Афсэтны друк. Фармат А3. Агульны наклад 20 тыс Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку» (220041 Менск, пр Скарыны, 79) Кошт паводле дамоўленасьці. Падпісана ў друк 25VII??Замова 1225

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12